Інфармацыйная культурна-грамадская газета Гарадоччыны

# ГАСЦІНЕЦ

Далучайся!

№ 5 (248) САКАВІК 2018 ГОДА

**БЕЛАРУСКІ АФАРЫЗМ**

***Нам трэба жыць і долю папраўляць, каб нас патомкі з часам не клялі***

*Янка Купала*

СТАГОДДЗЕ БНР

## ПАБУДАВАЦЬ ДЭМАКРАТЫЧНУЮ БЕЛАРУСЬ

**Сакавік 2018 года вылучаецца сярод іншых месяцаў года тым, што сто гадоў таму на нашых землях была ажыццяўлена спроба аднаўлення беларускай дзяржаўнасці – абвяшчэнне незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі. Пасля стагоддзяў паланізацыі і русіфікацыі нашы дзяды заявілі пра неад'емнае сваё права быць гаспадарамі на сваёй зямлі, існаваць як незалежная краіна на тэрыторыі, дзе беларусы складаюць большасцю.**

Дзень 25 сакавіка стаў першым крокам да незалежнай Беларусі, вырашэння першаснай задачы – незалежнасці ад Масквы. Менавіта тады была абвешчана незалежнасць нашай беларускай зямлі ад расейскай дзяржавы. Падобныя крокі ў той час ажыццявілі і іншыя народы былой расійскай імперыі: фіны, палякі, латышы, украінцы, летувісы і г.д.. Пасля 25 Сакавіка Беларусь нельга была лічыць часткай расійскай дзяржавы.

Але потым насталы часы , калі наша беларуская дзяржавы дзесяцігоддзямі знаходзілася ў залежнасці ад савецкай імперыі і яе унутраная і знешняя палітыка падпарадкоўвалася інтарэсам палітыкі камуністаў, а беларускі народ на сябе выпрабаваў ўсе заганы сталінска-бальшавіскай сістэмы празрэпрэсіі, калектывізацыю, падаўленне нацыянальнай мовы, культуры і г.д..

Другім крокам да незалежнай Беларусі стала абвяшчэнне суверэнітэта Рэспублікі Беларусь у 1991 годзе, аднаўленне нацыянальнага сцяга і герба "Пагоня". Абвяшчэнне Канстытуцыі краіны ў 1994 годзе і правядзенне выбараў кіраўніка краіны фактычна сталі фінішам дэмакратыхныхператварэнняў 90-х гадоў, бо за імі пачалося вяртанне ў савецкае мінулае і ігнараванне нацыянальных інтарэсаў беларусаў.

Сёння Беларусь фактычна мусіць ажыццявіць трэцці крок сваёй рэвалюцыі – ажыццявіць дэмакратычныя пераўтварэнні, якія датычыцца эканамічнай дзейнасці і выбараў улады. Яшчэ айцы БНР сцвярджалі неабходнасць для незалежнасці трывалай беларускай эканомікі. І гады суверэннага жыцця не знялі з парадку дня канкурэнтаздольнасць нашай эканомікі на рынкавай аснове, а толькі актуалізавалі гэта пытанне. Бо занадтта наша краіна энергетычна залежыць ад Расеі і не адыходзіць ад гэтай залежнасці, паразіцыруючы на расейскай рэнце.

Алеяшчэбольшактуальнадля краіны вяртанне да рэальных выбараў, а не іх імітацыя ў кампаніях, якія арганізуе вертыкаль. Выбарамі не могуць быць кампаніі, якія прадказываюцца, а іх вынікі пішуцца па ўказанню вертыкалі. Ліквідацыя канкурэнцыі ў выбарчых кампаніях – найвялікшае зло, якое мае далёкія наступствы для лёса большасці беларусаў, з'яўляецца мінай запаволенага дзеяння для суверэнітэтакраіны.

Чым раней народ прымусіць уладу правесці дэмакратычныя ператварэнні па вяртанню інстытута выбараў, з'яўлення канкурэнцыі ў грамадска-палітычным жыцці, тым больш шанцаў на рэальны дабрабыт у беларусаў з'явіцца ў бліжэйшы час. У сучасным свеце трыманне адсталых эканомік, палітычных сістэм нязбежна саштурхвае народ са шляху прагрэсу ў дэградацыю. Але беларусы павінны разумець, што за прагрэсіўнае развіццё трэба змагацца, весці працу будзённую шэрыю.

Менавіта да дэмакратычнай Беларусі заклікалі айцы БНР і іх запаветы мы мусім ажыццявіць.

**Леанід Гаравы**

**ЗНАЧНА БОЛЬШ НАВІНАЎ ПРА ГАРАДОК НА HARADOK.INFO**

ЭКАНОМІКА

## ФІНІНСАВАЯ СІТУАЦЫЯ КРЫХУ ПАЛЕПШЫЛАСЯ

**Нацыянальны стытыстычны камітэт апублікаваў чарговыя даныя за першыя два месяцы гэтага года. Даныя сведчаць пра адноснае паляпшэнне фінінсавай сітуацыі арганізацый раёна ў параўнанні з мінулым годам. І асабліва добра гэта бачна ў параўнанні з сітуацыяй у Шумілінскім раёне, дзе іншая тэндэнцыя.**

Аб'ём прамысловай втворчасці ў Гарадоцкім раёне за два месяцы склаў 3,5 млн. рублёў, што на 25% вышэй за мінулагодні паказчык. Праўда гэты рост на чвэрць у абласных працэнтах азначае змяншэнне ... на палову: годам раней было 0,2% абласнога ўзроўня, а ў гэтым годзе — 0,1%.

Знешнегандлёвая дзейнасць на пачатку года зменшылася найперш за кошт імпартнай дзейнасці, якая скарацілася з 500 тысяч даляраў да 100 тысяч. Адпаведна і станоўчае сальда пры дасягненні экспарта ў 1098 тысяч даляраў дасягнула амаль мільёна — 998 тыс. даляраў.

На фінансавае становішча арганізацый Гарадоцкага раёна на пачатку году стала менш ціснуць пятля пратэрмінаваных даўгоў па крэдытах, у тым ліку за паліўна-энергетычныя рэсурсы. Так пратэрмінаванасць па крэдытах паменшылася з 53 315 тысяч рублёў да 33 158 тыс. рублёў, а пратэрмінаванасць за паліўна-энергетычныя рэсурсы з 6 256 тыс. руб. да 3076 тыс. рублёў. Праўда чысты прыбытак арганізацый амаль не заўважны — 67 тысяч рублёў.

У падобнай сітуацыі знаходзіцца і суседні Шумілінскі раён, дзе за першыя два месяц гэтага года выраблены прыблізны аб'ём прамысловай прадукцыі — 3,4 млн. рублёў, а ў сельскай гаспадарцы сітуацыя з вырабам малака і мяса розная на пачатак году. На Гарадоччыне вырабілі амаль 5 тысяч тон малака пры надоях у 852 кг ад каровы — больш чым у два разы, а па мясе наперадзе Шуміліншчына — 1842 т — амаль на трэць больш.

Дык вось пры такіх эканамічных паказчыках арганізацый Шуміліншчыны іх фінсавае становішча працягвала і далей пагаршацца. Па пратэрмінаваных крэдытах даўгі арганізацый суседняга раёна выраслі з 32 251 тыс. рублёў да 51 858 тыс. рублёў, а за паліўна-энергетычныя рэсурсы з 7 770 тыс. руб. да 21 308 тыс. рублёў — амаль у тры разы за год.

**Леанід Гаравы**

КУЛЬТУРА

## АДБЫЛОСЯ ГРАЦЫЁЗНАЕ МЕРАПРЫЕМСТВА ВЯСНЫ

**Самае прыгожае і грацыёзнае мерапрыемства вясны, раённы конкурс «Лэдзі Дасканаласць-2018», адбылося 25 сакавіка на базе Пальмінскага СДК.**

Яго арганізатарам выступіў ДУК "Цэнтр традыцыйнай культуры і народнай творчасці Гарадоцкага раёна". У конкурсе прынялі ўдзел маладыя чароўныя жанчыны, якія рэалізаваліся ў прафесіі, стварылі моцныя, шчаслівыя сем'і і ажыццявілі сваё галоўнае прызначэнне - быць мамай!

Хваляпяшчоты, прыгажосці і грацыі накрыла гледачоў з момантуіх першага з'яўлення на сцэне. Пачатковым этапам конкурсу стала візітная картка "Знаёмства", якой суправаджалася дэфіле ў віктэйльных сукенках. Тут ўдзельніцы распавялі пра сябе, свае захапленні і інтарэсы.

На наступным этапе, «Беларуская гасціннасць», канкурсанткі прэзентавалі свае караваі, што таксама суправаджалася дэфіле ў нацыянальных касцюмах. Далей удзельніцы прадэманстравалі сваю фізічную падрыхтоўку запальным нумарам «Фітнес-мама», заклікаючы да здаровага ладу жыцця ўсіх гледачоў.

Заключным этапам стаў творчы конкурс «Запалі сваю зорку!», У якім чароўныя ўдзельніцы блiснулі усімі гранямі сваіх талентаў. Скончыла конкурс дэфіле ў вячэрніх сукенках «Поўня», у якім лэдзі паўсталі перад гледачамі ў раскошных доўгіх сукенках, чым прымусілі глядзець на сябе, не адрываючы вачэй, усіх прадстаўнікоў моцнага полу.

Перад журы стаяла няпростая задача. У выніку тытул «Місіс зачараванне» заваявала загадчыца крамы ў аг. Пальмінка Алена Уласава; «Місіс Арыгінальнасць» - кухар Вархоўскай дзіцячай сад-пачатковай школы Вольга Пішчулёнак. Другой Віцэ-місіс стала выхавальнік Пальмінскага ясляў-сада Марыя Захаранка, першай Віцэ-місіс - медсястра Гарадоцкай цэнтральнай бальніцы Крысціна Мядзюта.

Карона пераможцы «Лэдзі Дасканаласць-2018» ўпрыгожыла балетмайстра Езярышчанскага гарпасялковага Дома культуры Наталлю Падліпскую.

Усе ўдзельніцы (на здымку) атрымалі адпаведныя святочныя стужкі, узнагароджаны дыпломамі і сертыфікатамі, прадастаўленымі Гарадоцкім раённым аб'яднаннем прафсаюзаў, раённай арганізацыяй ДА «Белая Русь», раённай арганізацыяй ГА «Беларускі саюз жанчын», раённага камітэта грамадскага аб'яднання "Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі».

**Яна Лявонава, метадыст ЦТКіНТ**
**Сайт Гарадоцкага райвыканкаму**

***Пераклад з расейскай зроблен рэдакцыяй***

## Аб'ява

Аператыўная інфармацыя аб падзеях Гарадоччыны, рэгіёна і больш, чым у газеце, зараз па-беларуску і па-расейску з'яўляецца на новым Інтэрнэт рэсурсе: http://haradok.info

**************

Наша газета "Гасцінец" пачала размешчацца на партале http://haradok.info ў раздзеле "Газета "Гасцінец", дзе ствараецца архіў за мінулыя гады.

**************

Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Гасцінец» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – і вы яго атрымаеце. Калі ўжо не жадаеце атрымліваць выданне, то патэлефануйце у рэдакцыю.

СУПРАЦІЎ

# СТАГОДДЗЕ ПРАТЭСТНАГА РУХУ ПРАВАСЛАЎНЫХ ВЕРНІКАЎ

**22 сакавіка 1918 г. ў Гарадку пачалося "контррэвалюцыйнае царкоўнае паўстанне" пад кіраўніцтвам святара Гарадоцкай царквы Заблоцкага, былых афіцэраў царскай арміі Яфрэмава, Арэхавіча, Макарэвіча і інш. Пасля падаўлення выступу арышту падвергнуліся 15 чалавек, 20 жніўня 1918 годзе яны паўсталі перад Віцебскім губернскім рэўтрыбуналам.**

У студзені 1918 г. у Расіі былі прынятыя заканадаўчыя акты, карэнным чынам пераўтварылі статус праваслаўнай Царквы і рэзка змянілі ўклад парафіяльнга жыцця. 20 студзеня 1918 г. народны камісар дзяржаўнага дагляду РСФСР А. Калантай падпісала загад аб спыненні з 1 сакавіка 1918 г. выдачы сродкаў на ўтрыманне цэркваў, капліц, святароў, настаўнікаў закона божага і на здзяйсненне царкоўных абрадаў: царкоўнаслужыцелям прапаноўвалася шукаць працу на карысць народа праз падуладны ёй камісарыят ... Рэвалюцыйнае заканадаўства аб рэлігійным жыцці выклікала пратэстныя руху сярод праваслаўнага насельніцтва. Людзі ўспрынялі тое, што адбываецца як рабаванне храмаў, блюзнерства і барацьбу з рэлігіяй.

Да 1918 г на тэрыторыі Гарадоцкага павета пражывала вялікая колькасць дэмабілізаваных вайскоўцаў, у тым ліку афіцэраў, якія прайшлі праз бітвы Першай сусветнай вайны, якія звыкліся на фронце да самастойных дзеяннеў і адказваць сілай на сілу. 22 сакавіка (па іншых дадзеных, 18 сакавіка) 1918 г. ў Гарадку пачалося «контррэвалюцыйнае царкоўнае паўстанне пад кіраўніцтвам святароў гарадоцкіх цэркваў Заблоцкага і Грыгаровіча, былых афіцэраў царскай арміі Яфрэмава, Арэхавіча, Макарэвіча і інш.. Грамадзяне выступілі супраць ўліку царкоўных каштоўнасцяў і маёмасці, якое рабілі уездвыканкамы. У выступленні прынялі ўдзел былыя чыноўнікі, царкоўны актыў і масы вернікаў, з мэтай зьвяржэньня мясцовых органаў улады...

Самы актыўны ўдзел у паўстанні прынялі былыя чыноўнікі дарэвалюцыйнай паштовай канторы Гарадка: Д. Сакалоў, М. Амасовіч, работнік пошты П. Я. Нікіцін, мяшчанін Н. Шаціла, былы чыноўнік Гарадоцкага кіравання воінскага начальніка Д. Арэхавіч, Н. Ткачоў, А. Міклашэўскі, І. Шостак, А. Шутаў і іншыя асобы, звязаныя з прыходам Гарадоцкай царквы і якія падтрымлівалі даверныя адносіны са святаром Мікалаем Заблоцкім.

Натоўп паўстанцаў ўзначалілі былыя афіцэры П. Арэхавіч з вёскі Волкава, Е. Яфрэмаў, А. Тамкавід, Л. Міссун, былы міліцыянт Капусцін. Яны павялі людзей да складоў са зброяй і захапілі іх. М. Шаціла ў гэты дзень гандляваў на базары Гарадка і, калі на базарнай плошчы каля сабора сабралася шмат людзей, ўдарылі ў звон, пайшоў разам з імі да выканкаму з патрабаваннем вярнуць царкоўныя каштоўнасці, затым «бегаў з вінтоўкай за старшынёй РВКа». На 2-м паверсе будынка міліцыі (былога гарадокскага казначэйства) размяшчалася павятовая ЧК і адзін з яе супрацоўнікаў усталяваў там кулямёт, каб рассеяць паўстанцаў. Шаціла падабраўся ззаду да кулямётчыку, скінуў яго з лесвіцы і завалодаў зброяй, а затым заклікаў не дазваляць рабаваць царкву і выступіць супраць габрэяў. Узброіўшыся у тым ліку і кулямётамі, паўсталыя занялі будынак Гарадоцкага выканкама, турму, пошту, перарэзалі тэлеграфныя драты, разагналі атрад Чырвонай гвардыі, які мясціўся ў будынку міліцыі. У Гарадку праводзілісяператрусы на кватэрах работнікаў савецкіх органаў улады, у тым ліку і ў старшыні райвыканкама Д. П. Вараб'ёва

Ад царквы вялікая група паўстанцаў накіравалася да чыгуначнай станцыі Гарадка, паколькі прайшла чутка, што з Віцебска павінен прыбыць узброены атрад для падаўлення паўстання. Былы афіцэр І. Макарэвіч раздаў атраду паўстанцаў зброю мясцовай міліцыі і вайсковай часткі. Адначасна арыштоўваліся і збіваліся сустрэтыя камуністы. Маці Макарэвіча арганізоўвала жанчын са Стара-Полацкай вуліцы да выступленняў супраць габрэяў. П. Нікіцін разбіраў зброю, захопленую ў ваенкамаце, а на другі дзень паўстання верхам на кані раз'яжджаў ў якасці разведчыка па Гарадку і найбліжэйшых вёсках, назіраючы: ці не набліжаюцца з Віцебска або Невеля чырвонаармейскія часткі.

Адначасова з паўстаннем ў Гарадку адбыліся выступы ў валасцях Гарадоцкага павета: Вышацкай, Вярэцкай, Горкаўскай, Зайкаўскай, Руднянскай, Межанскай. У ходзе расследавання ў 1933 г. сведкі падзей паказвалі, што ўсе выступленні ўзначальвае і часткова кіраваліся «царкоўнікамі» пры непасрэдным удзеле і падтрымцы вернікаў. Канчатковай іх мэтай было звяржэнне органаў рэвалюцыйнай улады. У Вышацкай воласці натхняльнікам народных хваляванняў стаў аграном П. А. Свідзерскі, а яго аднадумцам і памочнікам царкоўны стараста М. Скаромны. Злучным звяном паміж выступамі насельніцтва ў Гарадку і Вышацкай воласці сталі П. Свідзерскі і Д. Арэхавіч, які паступіў на працу ў Гарадоцкі ваенкамат і таму меў магчымасць папярэджваць паўстанцаў аб перамяшчэнні надыходзячых Чырвонаармейскіх атрадаў. Пасля менавіта выступу Пакроўская царква ў Вышадках стала для праваслаўнага насельніцтва Гарадоцкага раёна цэнтрам духоўнага жыцця аж да 1929 годзе, калі царква была зачынена.

Пасля падаўлення збройнага чыну вялікая частка яго ўдзельнікаў, у першую чаргу былыя гарадавыя, знікла. Арышту падвергнуліся 15 чалавек, 20 жніўня 1918 годзе яны паўсталі перад Віцебскім губернскім рэвтрыбуналам. Галоўным абвінавачаным стаў клірык Мікалаеўскага сабора Гарадка святар Мікалай Заблоцкі. Яму ставіліся ў віну няправільная трактоўка дэкрэта аб аддзяленні царквы ад дзяржавы, агітацыя сярод прыхаджан гарадоцкага сабора аб непадпарадкаванні дэкрэтам і выступленні супраць савецкай улады, адмова спыніць узброенае выступленне. Астатнія 14 чалавек на чале з былым паручнікам 7-га Фінляндскага стралковага палка Арэхавічам абвінавачваліся ў замаху на рэжым праўлення ў РСФСР і ўдзел ва ўзброеным паўстанні, падчас якога частка абвінавачаных разагнала Гарадоцкі савет, іншыя адабралі зброю ў міліцыянтаў і чырвонаармейцаў, трэція адкрылі стральбу з вінтовак і кулямётаў па будынку, дзе знаходзіліся чырвонаармейцы, разрабавалі цэйхгауз, раздалі зброю «чарнасоценным элементам і мясцовай буржуазіі», арганізавалі ўзброены супрацьдзеянне дасланага з Віцебска атраду чырвонаармейцаў. Былі расстраляныя двое з кіраўнікоў паўстання: былы старэйшы гарадавы Е. Яфрэмаў і былы міліцыянт С. Капусцін. 25 верасня 1918 рашэннем Віцебскага губернскага рэвалюцыйнага трыбунала пратаіерэй Мікалай Заблоцкі таксама быў прысуджаны да смяротнага пакарання, але затым памілавалі.

Паўстанне ў Гарадоцкім павеце 1918 г. праявіла сілу веры людзей і стала той мяжой, пасля якога рэлігійная жыццё насельніцтва паступова стала сыходзіць у падполле. Прыкладам таму служыць біяграфія ураджэнца Гарадоцкага павета, апошняга дарэвалюцыйнага настаяцеля Невельскага манастыра архімандрыта Іаана (Майсеева). У 1926-1938 гг. ён хаваўся ад пераследаў савецкай улады ў лясах і аддаленых вёсках Гарадоцкага раёна, жыхары якіх яго не толькі не выдавалі, але і склалі своеасаблівы прыход, двойчы ўцёкаў з-пад арышту ў Невелі і Віцебску.

...Галоўным вынікам выступленняў праваслаўнага насельніцтва ў Гарадоцкім павеце ў 1918 г., якое абыйшоля без ахвяр з боку паўстанцаў, стала згуртаванне рэлігійна настроеных людзей у дужыя парафіяльныя абшчыны, якія ставілі сабе задачай арганізацыю і працу царквы пры любой уладзе.

***Пераклад з расейскай***

**Часопіс «Веснік царкоўнага жыцця»**

ЖЫЦЦЁВАЯ ГІСТОРЫЯ

# ГРАШЫМА, ТУШОНКАЙ, В'ЕТНАМСКІМІ СВІНКАМІ

**Зусім не казачная гісторыя напаўсляпой Ганны і яе 13-гадовага сына Дзімкі з мяжы Беларусі і Расіі в. Халіпы Гарадоцкага раёна хэпі-эндам так і не скончылася. Прынамсі, пакуль - не губляе аптымізму жанчына. Але чараўніцтва працягваецца: сям'і дапамагаюць чытачы TUT.BY з Беларусі, Расіі і нават Амерыкі.**

Ганна зараз чакае рашэння медкамісіі аб тым, ці можа яна працаваць. А Дзімка - калі ў яго інкубатарах вылупяцца кураняты і гусяты.

У канцы студзеня TUT.BY пісаў пра тое, як у глушы, на мяжы, дзе да расейскай «цывілізацыі» - 14 км, а да беларускага - і ўсё дваццаць два, жыве маленькая суполка грамадства: 49-гадовая Ганна Ананевіч і яе 13- гадовы сын Дзімка. Жыве ў чужым доме на птушыных правах - без прапіскі. Жанчына хварэе і ня можа знайсьці працу. Кіраўнік і карміцель сям'і - Дзімка, які ходзіць у расійскую школу, а ў вольны ад вучобы час прыбірае пад'езды, трымае курэй, трусоў, рыбачыць і марыць завесці в'етнамскіх свінак.

Лёс гэтай маленькай беларускай сям'і - няпростая і з чалавечай, і з юрыдычнага пункту гледжання. І пакуль Ганна спрабуе ўладкаваць сваё і дзіцяці жыццё, як можа і ўмее, ёй дапамагаюць чуллівыя людзі. Дзякуючы ім сям'я ўжо пераехала ў новы дом - той самы, па суседству.

Па словах жанчыны, грошы, якімі ёй дапамаглі валанцёры, ўладальніку дома ўжо заплацілі і атрымалі наўзамен распіску. Паўнапраўнай ўладальніцай жылля Ганна стане не раней, чым праз 2,5 месяца, калі брат які жыў тут Міхаіла уступіць у спадчыну. А пакуль мужчына дазволіў сям'і проста пераехаць і заняцца навядзеннем парадку.

- Зрабілі рамонт, з'явіліся мэбля, у Дзімы - кампутар, - распавядае жанчына. З гэтым дапамог адзін з банкаў Беларусі, які, кажа яна, пажадаў застацца невядомым. Супрацоўнікі гэтага ж банка забяспечылі сям'ю ежай на некалькі месяцаў.

Па словах Ганны, пасля публікацыі на TUT.BY сям'і сталі дасылаць грошы - «па 10, 20 рублёў», - рэчы, ежу.

- Прыехала камісія, выказвалі прэтэнзіі, маўляў, у мяне дзіця толькі кашай і бульбай сілкуецца. Я тлумачыла, што ў нас сваё мяса - мы трусоў разводзім. І ў гэты момант прыехалі людзі - прывезлі 4 скрыні тушонкі. Аддалі з'ехалі - я нават не пазнала, як іх завуць. Затое ў камісіі пытанні па ежы адпалі, - успамінае маці. - І колькі тых камісій было! МНС, міліцыя, адукацыю ... Дзіма цяпер кажа: «Мама, нічога не хачу, толькі каб гэтыя камісіі прыязджаць перасталі».

Чыноўнікі дапамагаюць сям'і ў юрыдычных пытаннях. Так, сям'ю зарэгістравалі пры грамадскім пункце аховы парадку сельвыканкама як грамадзян, якія не маюць ва ўласнасці нерухомасці.

- Калі б Ганна Трафімаўна сама адразу звярнулася ў сельвыканкам за рэгістрацыяй, яна б яе даўно атрымала, - распавяла TUT.BY намеснік старшыні Гарадоцкага райвыканкама па сацыяльных пытаннях Марына Здольнікава. - Зарэгістравалі яе на год, згодна з заканадаўствам. За гэты тэрмін яна павінна вырашыць сваё жыллёвае пытанне. Таксама ёй далі накіраванне на медабследаванне, каб вырашыць пытанне, можа яна працаваць ці не па стане здароўя. Прапаноўвалі абследавацца бясплатна ў бальніцы ў стацыянары, быць там разам з дзіцем, але яна некалькі разоў пераносіла дату, спасылаючыся на падпрацоўку, а затым адмовілася, але прынесла усе патрэбныя даведкі. Цяпер трэба чакаць, калі яе выпадак будзе разглядаць МРЭК.

Ганна тлумачыць: калі яны з сынам лягуць у бальніцу, то няма каму будзе глядзець за гаспадаркай. А яна ўжо вялікая: трусы, куры і Дзімкина мара - шэсць в'етнамскіх парсючкоў. Сваёй гадзіны чакае расада таматаў, перцаў і баклажанаў, высаджаная школьнікам. А яшчэ ў сям'і нарэшце з'явіліся два інкубатара - Дзімка не можа дачакацца, калі вылупяцца кураняты і гусят. Усё гэта - дзякуючы дапамозе добрых людзей.

- Абследаванне я прайшла ў дыягнастычным цэнтры Віцебску платна - ездзіла некалькі разоў: то трэба было дачакацца вынікаў аналізаў, то запісацца да патрэбных урачоў нельга было на адзін дзень. Грашыма дапамагла Аксана Майстар, якая жыве цяпер у Амерыцы. Яна, незнаёмы чалавек, даслала 1700 доляраў, каб мы маглі наняць кіроўцы і з'ездзіць. Уяўляеце? Я здала кроў, прайшла МРТ, УГД сасудаў галаўнога мозгу. Заўтра мне прызначана да нейрахірургу.

Жанчына кажа, што ў лекараў несуцяшальныя прагнозы на яе рахунак. Да канца жыцця ёй давядзецца прымаць таблеткі і быць гатовай да таго, што перыядычна будуць адымацца рукі і ногі. Ей забаранілі падымаць вагу больш за 5 кг, перанапружвацца, хваляваца і доўга быць на вуліцы на яркім сонцы. Ці можна вылечыць другое вока, які амаль нічога не бачыць, пакуль незразумела.

Ганна кажа, што ёй прыйшлі дакументы з суду, па якіх ён павінен вярнуць дзяржаве пад'ёмныя, выплачаныя ёй як удзельніцы праграмы па перасяленню. Належны тэрмін у гаспадарцы ў вёсцы Янавічы яна не адпрацавала, умовы дагавора не выканала - значыць, павінна заплаціць 11 тыс. рублёў.

- Я стэлефаноўвалася з пракурорам. Ён будзе хадайнічаць, каб мне дазволілі выплаціць гэтую суму хоць бы часткамі, - кажа жанчына. - Нават калі мне не дадуць групу, я зарэгіструюся асабістую падсобную гаспадарку - ужо давядвалася, што для гэтага трэба. Прарвемся! Галоўнае, каб здароўе было, а там выкараскаліся - з дапамогай Божай і людской.

**tut.by**

СТАГОДДЗЕ БНР

# ОСТРОВ БЕЛО-КРАСНО-БЕЛЫХ ФЛАГОВ У ОПЕРЫ И ХАПУН…

**Белорусские власти вынуждены давать некий простор национальной идее, но при этом боятся политической активности сознательных граждан... Сегодня в белорусской столице разворачивались две параллельных реальности — мирному торжественному празднованию столетия Белорусской Народной Республики у Большого театра предшествовал хапун на площади Якуба Коласа. А по большому счету хапун (и не только в Минске) начался загодя.**

На разрешенные властями митинг и концерт — «Свята незалежнасці» на Троицкой горе, у оперного, собралось много людей (лидер движения «За Свободу» Юрась Губаревич оценил их число в двадцать тысяч). Запрещенное же шествие было подавлено в зародыше.

Да, по сравнению с разгоном прошлогоднего Дня Воли налицо некий прогресс. Но прогресс весьма условный. Власть остается такой же недемократичной, репрессивной. Вместе с тем, она вынуждена дозировать жесткость и приоткрывать какие-то клапаны в системе….

**Сторонников марша зачистили**

Как бы то ни было, легальный фестиваль у Большого театра власти даже биотуалетами обеспечили, освободили организаторов от оплаты ряда услуг. А вот с теми, кто, апеллируя к конституционному праву, призывал на неразрешенное шествие, церемониться не стали.

Силовики сработали так, чтобы шествие не состоялось в принципе. Превентивно задержали в Минске и регионах тех, кого определили как заводил, потенциальных бузотеров. И уже на самой площади Якуба Коласа сегодня около полудня упаковали в автозаки несколько десятков тех, кто пытался поднять флаги, плакаты, да и просто подозрительных с точки зрения ОМОНа субъектов (включая некоторых журналистов).

Вообще-то после прошлогоднего подавления «дармоедских» протестов белорусские власти закулисно пообещали нахмурившей брови Европе, что постараются более толерантно строить отношения с несогласной частью общества. И сегодня ОМОН на Якуба Коласа действовал хоть и энергично, однако без излишне брутальной картинки. Кандидатов на помещение в автозак брали под руки, но не волокли. Когда пишутся эти строки, приходят сообщения, что задержанных отпускают из милиции….

**Власть боится политической активности**

Со своей стороны, белорусское руководство понимает: чтобы «русский мир» не поглотил Беларусь, нужно укреплять национальный дух, патриотизм. Но при этом властям хотелось бы иметь послушный, управляемый, стопроцентно лояльный режиму патриотизм.

Однако попытки вывести такое явление в казенных пробирках оказались не слишком удачными — в итоге появляются только анемичные структуры вроде «Белой Руси» да БРСМ.

Неформальные же патриоты, стоящие на почве национальной идеи, в массе своей стоят и в оппозиции нынешнему политическому режиму. Их идеал — демократическая европейская Беларусь.

К слову, в этом плане видно огромное различие между Беларусью и Россией. Кремлю удается играть на великодержавных струнах, тамошние патриоты в массе своей поддерживают Путина и «Крымнаш». Беларусь — не империя, у нас патриот во многих случаях является и убежденным противником нынешней авторитарной власти.

И вот эту коллизию Лукашенко разрешить по большому счету не в силах. Потому его политика мягкой белорусизации и впредь будет непоследовательной, фрагментарной.

Власть немного расширяет границы той резервации, в которую сама же загнала «свядомых», но при этом жестко контролирует, кабы чего не вышло. Кроме всего прочего, Минск опасается раздражать Москву, которой мерещится здесь разгул национализма по украинскому сценарию.

**Продвигать белорусскую идею всеми средствами**

При этом не выглядят глубокомысленными критиками те, кто бросает камни в организаторов «Свята незалежнасці» за то, что они якобы на подтанцовке у власти. Оппозиции и активистам гражданского общества логично использовать даже скромные новые возможности для укрепления национального самосознания, продвижения белорусской идеи в массы.

Пока с этим большая проблема. Да, довольно большое число людей у оперного (и само получение этой площадки, что может стать традицией) — это успех. В центре столицы сегодня возник большой остров бело-красно-белых флагов, которыми можно было размахивать, не боясь попасть «на сутки». Это сильный позитив для белорусов, стоящих на почве национальной идеи.

Но вместе с тем очевидно, что столетие БНР стало событием лишь для относительно узкого слоя политизированной публики, критично настроенной по отношению к нынешней власти.

Масса белорусов равнодушна к дате и вообще слабо знает или вовсе не знает историю зарождения нашей государственности. Здесь — непаханое поле для культурно-просветительной работы, которую можно вести в легальных формах.

Однако никуда не денется главная внутриполитическая коллизия Беларуси, связанная с недемократичностью созданного первым президентом режима. Чтобы упрочить независимость, нужно строить общество свободных сознательных граждан. И до такой Беларуси еще ой как далеко. Что показал и нынешний контрастный День Воли.

**Александр Класковский**

АЗБУКА

# ЧАМУ ЛУКАШЭНКА НЕ ЗМОГ ЗАПУСЦІЦЬ ЗАВОДЫ

**Тэмпы росту ВУП у Беларусі сёння вышэй, чым у многіх прамыслова развітых краінах, аднак яны развіваюцца, а мы — не. Не ў каня атрымаўся корм. Нагадаю, у гэтым годзе, згодна з планамі ўрада, эканоміка павінна вырасці на 3,5%. Наколькі ж пры гэтым павялічыцца дзяржаўны доўг?**

Тэлефаную студэнцкаму прыяцелю, які ўсё сваё свядомае жыццё прапрацаваў на Мінскім заводзе шматслойных друкаваных платаў (МЗШДП). Быў такі флагман саюзнага маштабу, што меў найноўшае французскае абсталяванне. Пра былыя поспехі МЗШДП нагадвае 9-павярховы адміністрацыйны корпус на вуліцы Прытыцкага ў Мінску.

Вытворчасць друкаваных платаў, паводле інфармацыі маёй інсайдарскай крыніцы, была спыненая ў лістападзе 2015 года. Маральна і фізічна састарэлае абсталяванне разабралі. Кампаненты, якія змяшчаюць золата, былі здадзеныя на перапрацоўку. Дакументацыя — знішчаная.

А што было рабіць, калі патрэба ў такіх вырабах у Беларусі істотна знізілася, а тую, што засталася, працей задавальняць за кошт кітайскага імпарту. Гэта на практыцы і робіцца.

Лёс МЗШДП — не выключэнне, а правіла. Ну як тут не пагадзіцца з наступнай заявай адзінага палітыка (АП): «Так, „беларуская мадэль развіцця“, або „беларускі шлях развіцця“ аб'ектыўна існуе. Усё, што сёння мы маем у эканоміцы, у сацыяльнай і іншых сферах, вынік таго, што мы ўсе гэтыя гады ішлі сваім шляхам, мы жылі сваім розумам. Мы не слухалі „дактароў“ з Міжнароднага валютнага фонду, якія прапісвалі лекі, што больш небяспечныя за саму хваробу».

**Дзяржава ў ролі галоўнага інвестара**

Утым, што «беларуская мадэль» створаная сваім розумам, сумнявацца не даводзіцца. Але якое дачыненне яна мае да развіцця?

За развіццё не варта прымаць рост. Сярэднегадавы індэкс прыросту ВУП за тры пяцігодкі (1996–2010) у Беларусі склаў 7%, што не перашкодзіла МЗШДП і многім яго высокатэхналагічным таварышам па няшчасці дэградаваць (але гэта так, рэмарка, якой не варта надаваць асаблівага значэння).

Большасць прамыслова развітых краін 7-працэнтнаму тэмпу эканамічнага росту маглі б толькі пазайздросціць. Гледзячы на такую дынаміку, самы час было б казаць пра нараджэнне ў геаграфічным цэнтры Еўропы калі не новага эканамічнага «тыгра», дык, ва ўсялякім разе, новага эканамічнага «цуду». Дарэчы, асобныя аптымісты ад улады гэтым і займаліся.

Шкада толькі, што на працягу апошніх гадоў дадзеная нам у адчуваннях рэальнасць адмаўляецца прадстаўляць новыя падставы для аптымізму.

Крыху афіцыйнай статыстыкі. Калі ў 2000 годзе было выраблена 5,5 тысячы станкоў для апрацоўкі металаў, дык у 2017-м — 1,6 тысячы. Пік вытворчасці трактароў прыйшоўся на 2012 год — 71 тысяча. За наступныя пяць гадоў вытворчасць «жалезных коней» для сельскай і лясной гаспадаркі скарацілася амаль удвая — да 38,3 тысячы. І такая сітуацыя практычна ва ўсіх папулярных яшчэ ў савецкія гады прамысловых брэндаў.

Але чаму плюс змяніўся на мінус? На сваіх першых прэзідэнцкіх выбарах будучы АП перамог не ў апошнюю чаргу дзякуючы абяцанню «запусціць заводы». Для рэалізацыі абяцання дзяржава ўзяла на сябе ролю галоўнага інвестара, ад якой і сёння не адмаўляецца. Адкрыем прэс-рэліз, прысвечаны сакавіцкай справаздачы ўрада, Нацыянальнага банка, аблвыканкамаў і Мінскага гарвыканкама: «У гэтых мэтах (гаворка ідзе пра стварэнне новых прадпрыемстваў) наша небагатая дзяржава па крупінках збірае грошы і накіроўвае іх у інвестыцыйныя праекты».

Ці не з-за гэтых «крупінак» дзяржаўны доўг, згодна з інфармацыяй, агучанай АП, у 2017 годзе рос хутчэй, чым эканоміка? Канкрэтных лічбаў ён, на жаль, не прывёў, таму мне давялося шукаць інфармацыю на сайце Нацыянальнага банка. Прыводжу вынік свайго пошуку: «Дзяржаўны доўг РБ на 1 студзеня 2018 г. склаў 42,2 млрд. рублёў і павялічыўся ў параўнанні з пачаткам 2017




г. на 5,2 млрд. рублёў, або на 14,1%». Што тычыцца ВУП, то за мінулы год ён вырас на 2,4%. Такім чынам, тэмпы росту доўгу апынуліся ў 5,9 разы вышэй за тэмпы росту эканомікі!

Не ў каня атрымаўся корм. Нагадаю, у гэтым годзе, згодна з планамі ўрада, эканоміка павінна вырасці на 3,5%. Наколькі ж пры гэтым павялічыцца дзяржаўны доўг?

**Ад перадавых галін да перадавых тэхналогій**

У якасці каментара працытую вядомага расійскага эканаміста Уладзіміра Мау: «Цяпер тэхналагічны рывок нельга забяспечыць шляхам канцэнтрацыі сродкаў у руках дзяржавы. У індустрыяльную эпоху краіны, што паспяхова вырашалі задачы мадэрнізацыі, якая даганяе (Германія, Японія, СССР), вылучаліся падвышанай доляй бюджэту ў ВУП, калі параўноўваць з самымі развітымі краінамі. У апошнія ж паўстагоддзя ўсе паспяховыя прыклады скарачэння разрыву краінамі, якія даганяюць, — гэта выпадкі, калі бюджэтная нагрузка была ніжэйшай, чым у развітых краінах».

У чым галоўная асаблівасць сучаснасці? У хуткасці зменаў. Не паспеў пакупнік нарадавацца апошняй мадэлі iPhone — а яна ўжо састарэла. Хуткая змена тэхналогій робіць неэфектыўнымі вытворчасці, у якія трэба гадамі «па крупінках збіраць грошы» для інвеставання, а потым дзесяцігоддзямі чакаць, калі яны акупяцца.

Калі тэхналогіі мяняюцца некалькі разоў за адно пакаленне, праца ў рамках доўгатэрміновых стратэгій раўназначная кансервацыі адставання. У адрозненне ад індустрыяльнай

*(працяг на стар. 4)*

## АЗБУКА

***(пачатак на стар. №3)***

эпохі, у постіндустрыяльную немагчыма вызначыць галіны, у якія дзяржава ўкладала б рэсурсы і атрымлівала пры гэтым станоўчы эфект.

Гэта ў СССР любілі разважаць пра перадавыя галіны (ракетабудаванне, электроніка ды інш.). Сёння мае сэнс абмяркоўваць перадавыя тэхналогіі. Яны могуць быць у любой галіне. Возьмем, да прыкладу, сельскую гаспадарку. У 2016 годзе нямецкі хімічны і фармацэўтычны гігант «Bayer» набыў найбуйнейшага ў свеце вытворцу генетычна мадыфікаваных прадуктаў «Monsanto» за 66 мільярдаў долараў, г.зн. па цане расійскага «Газпрома».

Новыя тэхналогіі ствараюць не проста новыя правілы гульні на рынку, але фармуюць новае палітычнае і сацыяльнае асяроддзе, якое складаецца з адносна аўтаномных і незалежных ад улады галін сацыяльнага жыцця (эканоміка, навука, культура, адукацыя, суд). Сувязь паміж імі ў эканамічна паспяховых краінах ажыццяўляецца праз добраахвотны абмен рэсурсамі, прававымі нормамі і маральнымі прынцыпамі.

Што тычыцца «беларускай мадэлі», якая жыве сваім розумам, дык, паводле ўласнага прызнання яе галоўнага архітэктара, ён з'яўляецца прыхільнікам таго, што «дзяржаве ёсць справа да ўсяго». Ні пра якую аўтаноміі пры гэтым не можа быць і гаворкі. Таму ў якасці адзінага ўмацавальніка выступае ўладная «вертыкаль». Гэты па-свойму стройны і дасканалы механізм здольны кіраваць (камандаваць) выключна ў «ручным» рэжыме. Толькі вось на развіццё ён працаваць не здольны.

**«Гарызонт» супраць Panasonic**

Прыхільнікі Сталіна — а такіх у Беларусі хапае — любяць разважаць пра эканамічны рывок, дасягнуты ва ўмовах разрухі, галечы і масавай непісьменнасці пад кіраўніцтвам «бацькі народаў». Рывок быў забяспечаны за кошт будаўніцтва ў гады даваенных пяцігодак тысяч перадавых для свайго часу прадпрыемстваў. Сёння ж, калі што і будуецца, дык выключна гандлёвыя цэнтры.

У 1939 годзе гарадское насельніцтва ў БССР складала 20,8% (79% — у 2016 годзе) і толькі 24 студэнты прыходзілася на 10 тысяч насельніцтва (471 студэнт у 2011 годзе), што, аднак, не перашкодзіла перад пачаткам Другой сусветнай вайны выпрацаваць у рэспубліцы 10% металарэзных станкоў ад агульнасаюзнай вытворчасці.

Цікавая заканамернасць! Чым больш гарадскога насельніцтва і чым вышэйшы ўзровень адукацыі — тым больш праблем у станкабудаванні. Растлумачыць гэты парадокс толькі адной прычынай немагчыма, што не перашкаджае мне вылучыць галоўную. Сталінская эканоміка была надзейна абароненая ад знешняй канкурэнцыі, дый унутранай канкурэнцыі практычна не было. Таму на прадукцыю любога прадпрыемства, незалежна ад яе якасці, заўсёды быў павышаны попыт.

Людзям майго пакалення не трэба тлумачыць, што на побытавай мове ў СССР азначала слова «фірма». Для моладзі ж растлумачу, што так называлі любы прадмет шырспажыву, выраблены за мяжой. Да перабудовы людзі былі гатовыя з ночы займаць чэргі за італьянскімі ботамі, фінскімі гарнітурамі або французскай касметыкай. Пры гэтым канкрэтны вытворца ботаў значэнне не меў, галоўнае, каб яны былі італьянскімі і ўжо таму — «фірмовымі».

А што мы маем сёння? Са 100 прададзеных у 2017 годзе тэлевізараў толькі 8 былі айчыннай вытворчасці. А колькі яшчэ тэлевізараў завезлі беларускія аматары шопінгу з Польшчы і Літвы?

Працаўнікам «Гарызонту» і «Віцязя» не пазайздросціш. Тое, што яшчэ ўчора праходзіла па катэгорыі абстрактнай «фірмы», сёння даступна ў выглядзе Sony, LG, Samsung, Panasonic. Што можна супрацьпаставіць гэтай дружнай кампаніі? Ну хіба што беларуска-расійскую праграму «Саюзны тэлевізар».

**Сяргей Нікалюк**
**"Новы час"**

## СТАГОДДЗЕ БНР

# ХТО І ЯК ПРЫДУМАЎ БЕЛАРУСКІ БЕЛ-ЧЫРВОНА-БЕЛЫ СЦЯГ

**Мы добра ўяўляем, як выглядае нацыянальны сцяг: чырвоная паласа паміж дзвюма белымі. Але адзінкі ведаюць, хто яго аўтар. 100-годдзе БНР — добрая нагода ўзгадаць пра Клаўдзія Дуж-Душэўскага — чалавека, які падарыў нам бел-чырвона-белы сцяг. Тым больш што палітычны дзеяч, дыпламат, архітэктар, рэдактар, педагог — наш зямляк, родам з Глыбокага. Бел-чырвона-белы сцяг створаны нашым земляком...**

Клаўдзій Дуж-Душэўскі нарадзіўся 27 сакавіка 1891 года ў мястэчку Глыбокае Дзісненскага ўезда Віленскай губерні. Бацька Сцяпан і маці Ева лічылі сябе «беларусамі польскай культуры». У сям'і было пяць дачок, таму нараджэнне хлопчыка стала доўгачаканай падзеяй. У Першую сусветную Клаўдзій не трапіў у царскую армію, бо быў адзіным сынам у бацькоў.

Бацька і дзядзька Клаўдзія зараблялі будаўніцтвам. Меў да яго вялікія здольнасці і сам хлопец.

«З юных гадоў я ўдзельнічаў у будаўніцтве, дапамагаў майстрам, чарціў, складаў сметы дамоў, касцёла, будаўніцтва шашы і невялікіх мастоў. З'яўляючыся вучнем старэйшых класаў, я ўжо кіраваў невялікімі будаўнічымі працамі і па ўказаннях бацькі складаў праекты», — узгадваў Дуж-Душэўскі.

**Вучыўся, працаваў, кіраваў «беларускім абуджэннем»**

Хлопец вырашыў, што хоча стаць архітэктарам. Паступіў у рэальнае вучылішча ў Вільні, дзе паглыблена вывучаў прыродазнаўчыя і фізіка-матэматычныя навукі.

У 1910 годзе ў адной з віленскіх кнігарань Дуж-Душэўскі сустрэўся з беларускімі дзеячамі Вацлавам Ластоўскім і Антонам Луцкевічам. Знаёмства стала лёсавызначальным. «Я хутка зразумеў, што я не паляк, і адразу далучыўся да руху беларускага абуджэння», — успамінаў будучы стваральнік нацыянальнага сцяга.

Праз два гады Клаўдзій паступіў у Пецярбургскі горны інстытут. Пачаў працаваць яшчэ студэнтам: на заводах, у шахце, нават у Сібіры — на гідратэхнічным аб'екце. А ў вольны ад вучобы час удзельнічаў у беларускім нацыянальным руху. У 1918-м чалавек з такім светапоглядам, канешне ж, ухваліў абвяшчэнне Беларускай Народнай Рэспублікі.

**Як нарадзіўся сцяг**

Калі з'явіўся бел-чырвона-белы сцяг, на жаль, дакладна невядома: Дуж-Душэўскі не пакінуў нам даты зацверджання свайго эскіза. Не засталіся ў гісторыі і прозвішчы людзей, якія прымалі яго працу.

Вядома адно: эскіз сцяга Дуж-Душэўскі стварыў, вывучыўшы беларускія арнаменты і колеры народных строяў. Працаваць ён пачаў пасля таго, як да яго ў Пецярбургу звярнуліся суайчыннікі з просьбай ліквідаваць прабел — у беларусаў ёсць герб «Пагоня», але няма свайго сцяга.

Ва ўспамінах за 1934 год Дуж-Душэўскі адзначаў, што эскізаў было некалькі: «Цікава адзначыць, што беларусы ўважалі сваім дзяржаўным сцягам той, што і літоўцы, гэта значыць белую „Пагоню" на чырвоным полі, але нацыянальнага сцяга не было. Мне давялося зрабіць некалькі праектаў нацыянальнага сцяга, і адзін з іх быў прыняты: менавіта бел-чырвона-белы. Ад таго часу гэты сцяг і лічыцца за беларускі».

Першая дакументальная згадка пра з'яўленне бел-чырвона-белага сцяга адносіцца да вясны 1917 года — ён залунаў не ў нас, а зноў-такі ў Пецярбургу — на будынку Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны. Дуж-Душэўскі працаваў там у 1916–1918 гадах.

«Сьцяг Беларусі затрапятаў у падбітай сталіцы зруйнаванае імпэрыі. Неўзабаве Сьцяг рушыў у Беларусь. 12 сакавіка ў Менску адбылося масавае сьвята — нацыянальны Дзень беларускага значка. У гэты дзень бел-чырвона-белыя значкі, кукарды й сьцяжкі можна было пабачыць паўсюль на вуліцах. Сьцягі, пашытыя паводле эскіза Дуж-Душэўскага, былі разасланыя ў мясцовыя арганізацыі. Радаслаў Астроўскі (беларускі палітычны дзеяч. — Заўвага TUT.BY) сьведчыў, што ён сам атрымаў Сьцяг у траўні 17-га ў Слуцку, дзе ў той час працаваў. На тым Сьцягу было вышыта золатам: „Няхай жыве вольная Беларусь". У сьнежні 1917 году ў Менску падчас Усебеларускага зьезду бел-чырвона-белы сьцяг ужо адзінадушна ўважаўся за нацыянальны сымбаль Беларусі…» — адзначае Сяргей Харэўскі ў артыкуле для «Нашай нівы».

Бел-чырвона-белы штандар стаў сімвалам свабоды і нацыянальнага адраджэння.

…У 1952-м Дуж-Дужэўскага абвінавацілі ў нацыяналізме і антысавецкай дзейнасці. Вільнюскі абласны суд вынес прысуд 61-гадоваму «активному белорусскому националисту» Дуж-Душэўскаму — 25 гадоў лагера, канфіскацыя ўсёй маёмасці і пазбаўленне правоў на 5 гадоў.

Выйшаў на волю Дуж-Душэўскі раней, праз 3 гады: з-за моцнай хваробы, але без адмены прысуду. Памёр 25 лютага 1959 года. Пахаваны на могілках Пятрашунай у Каўнасе.

**Памятную дошку ў Глыбокім адкрывалі… двойчы**

У 2012 годзе ў Глыбокім на прыватным доме № 22 на вуліцы Горкага з'явілася мемарыяльная дошка, прысвечаная Клаўдзію Дуж-Душэўскаму. На ёй — партрэт дзеяча. Дом, дзе ён нарадзіўся ў 1891 годзе, не захаваўся, але стаяў побач з гэтым будынкам.

Дом № 22 на вуліцы Горкага належыць глыбачаніну Раймандту Салодкаму. Ён не сваяк Дуж-Душэўскіх, аднак пагадзіўся, каб на сцяне ягонага жытла з'явілася дошка ў гонар стваральніка бел-чырвона-белага сцяга.

Дарэчы, шыльду ўсталявалі з другой спробы. Упершыню па ініцыятыве мясцовых актывістаў яна з'явілася на доме № 22 напярэдадні Дня Волі ў 2008-м. Аднак праз два дні пасля адкрыцця дошку знялі па загадзе ўладаў.

Праз чатыры гады дошку адкрылі на тым жа самым месцы — ужо са згоды райвыканкама.

**Татьяна Матвеева**
**TUT.BY**

## ТАКОЕ ЖЫЦЦЁ

# НА СТАРШЫНЮ, ЯКАЯ САМА АПЛАЧВАЛА ШТРАФЫ, ЗАВЯЛІ СПРАВУ

**«Шкада было людзей» — старшыня сельвыканкама растлумачыла, чаму складала пратаколы на вяскоўцаў і сама плаціла штрафы**

Вольга Дадыкіна, старшыня Мушынскага сельскага выканкама, што ў Амсціслаўскім раёне, на пасадзе ўжо каля 10 гадоў. Пакуль што яна працягвае працу. Але нядаўна на жанчыну завялі крымінальную справу, ёй пагражае ад 3 да 10 гадоў зняволення. Дадыкіну вінавацяць у тым, што ў 2015 і 2016 гадах яна складала на вяскоўцаў адміністратыўныя пратаколы, якія пасля сама ж і аплачвала.

Як паведамляе Камітэт дзяржкантролю, Дадыкіна рабіла гэта, «каб стварыць бачнасць актыўнай працы па добраўпарадкаванні населеных пунктаў». Бо інакш яе саму маглі б прыцягнуць да адказнасці за бяздзейнасць.

Вольга Яўгеньеўна растлумачыла «Нашай Ніве» падрабязнасці абсурднай гісторыі.

«Усе пратаколы я складала за смецце, побытавыя адкіды, якія ляжаць на ўчастках, ля хат...

2015–2016 гады былі вельмі напружанымі. Прыязджалі шмат разоў санстанцыі, правяралі. З нас патрабавалі штотыдзень: што з пратаколамі, колькі за тыдзень? Прыходзілася складаць.

Кожны квартал мы давалі справаздачы ў Магілёў, колькі складзена адміністратыўных пратаколаў за побытавае смецце. Такі перыяд быў.

Але пратаколы складаліся не таемна. Прыязджалі санстанцыя і „экалогія", рабілі заўвагі. Пасля я складала пратакол і паведамляла чалавеку, што зрабіла, давала яму прадпісанне. Пасля прыязджалі і правяралі — прыбралі яны ці не. Часам прыходзілася нам самім нават прыбіраць!» — распавядае Дадыкіна.

«Ды і сама я плаціла. „Экалогія" на мяне складала пратаколы за смецце. Я плаціла па 30 базавых, — узгадвае яна. —

Але вяскоўцам я пісала мінімальныя сумы штрафаў — 0,1 базавую. Тады былі мізэрныя заробкі і выпісваць па максімуму, ведаеце... Шкада было людзей. Плаціць ім усё роўна не было чым.

Гэта рабілася не для таго, каб кагосьці пакараць... Хаця пакараць, можа, і варта было. На тых, на каго складаліся пратаколы, было за што складаць. Гэта не тое, што вось, мне захацелася і я склала...

Часам аплачвала штрафы сама. Бо калі штраф не аплачаны ў пэўны тэрмін, справа ідзе ў суд. Таму я і плаціла, каб на людзей у суд не падавалі.

Некаторыя вярнулі грошы пасля. Некаторыя — не».

**"Наша Ніва"**

**Заснавальнік і рэдактар:**
Гаравы Леанід Антонавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211573, г. Гарадок,
вул. Гагарына, д.30Б, кв.16. E-mail: 250318@list.ru
Тэл. 8-02139-5-08-52, маб. + 375(29)6723842 (V),
Газета выдаецца з сакавіка 1998 г.

**Падпісана да друку 29.03.2018 у 18.50**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на абсталяванні аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.